Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

30 СТУДЗЕНЯ - 5 ЛЮТАГА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№ 5 (145)

## Шарамет асуджаны

***АШМЯНЫ.** За пераход дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь па папярэдняй змове групай асобаў паўторна — арт. 80 ч. 2 Крымінальнага кодэкса П.Шарамет асуджаны да 2 гадоў, а Дз.Завадскі — да 1 года і шасці месяцаў умоўнага заключэння з выпрабавальным тэрмінам адзін год. Да супрацоўнікаў ОРТ будзе таксама прыменена падпіска аб нявыездзе. Пры гэтым суд апраўдаў П.Шарамета па арт. 167 прым. ч. 1 — злоўжыванне службовым становішчам.*

Адвакат **Гары Паганяйла** накіраваў у Гродзенскі абласны суд касацыйную скаргу. Матэрыялы аб выяўленых ў часе судовага следства фактах парушэння закона следчым **Б.Рагімавым** і дазнаўцам **А.Пашко** суд накіруе Генеральнаму пракурору рэспублікі.

*Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.*

*Штотыднёвік*

**ПЮТЫ 2 - 8**

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| *Маленькія хітрыкі падпісчыка. У маі прыйдзе пяць "Рэгіянальных" за 8 тысяч, а калі купляць, то аддасі 15 тысяч. Трэба падпісацца...* | *53841 даць аб'яву* |
| | **Павіншаваць** |
| | *Віншаваначкі ў "РГ" бясплатныя.* |

# Молодым везде у нас дорога...



***Па дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу, насельніцтва Беларусі на 1 студзеня 1998 года склала 10 мільёнаў 203тысясчы чалавек, скараціўшыся за мінулы год на 33 тысячы. Смерць над нараджальнасцю перавышае і ў нашым рэгіёне.***

Сярод прычын змяншэння колькасці нараджэнняў дэмографы і псіхолагі адзначаюць складаныя бытавыя і сацыяльныя ўмовы жыцця, няўпэўненасць ў заўтрашнім дні. Наркаманія, якая ўсё больш ахоплівае наша грамадства, цяжкая перспектыва працаўладкавання, няўпэўненасць у заўтрашнім дні прывялі да таго, што мы можам апынуцца на мяжы знікнення нацыі. Факт з'яўлення на гэтым свеце новага чалавека абсалютна не дае ніякіх гарантый проста чалавечага жыцця.

***Статыстычныя звесткі аб дэмаграфічным становішчы ў рэгіёне змешчаны на 3-й старонцы.***

*Эх, пракачу!*



АЎТОБУС-"ЧАРВЯК" НА ЛІНІІ. ФОТА АЛЕГА БАШТАВЕНКІ.

## Набылі "чарвякоў"

***МАЛАДЗЕЧНА.** На 100 рублёў даражэй стане ў Мінскай вобласці з 1 лютага праезд у гарадскіх аўтобусах. Праязны талон будзе каштаваць 2600 руб., месячны праязны - 105 тысяч. Расцэнкі даведзеныя аблвыканкомам.*

Па маршрутах аўтобусаў №2, 6, 11 будуць хадзіць (адзін ужо на маршруце) аўтобусы-гармонікі. У народзе іх клічуць "чарвякамі". Гэтыя далёка не новыя аўтобусы былі купленыя ў Прыбалтыцы.

*Аддзел інфармацыі.*

## У Смаргонь прыехалі ЛАЗы

***СМАРГОНЬ.** Аўтапарк набыў 2 новыя ЛАЗы. Аўтобусы будуць працаваць на прыгарадзе.*

Кошт гарадскіх перавозак таксама ўзрастае. Поўны талон будзе каштаваць 2600 руб. (а было 2 тыс.). Праязны на месяц - 100 тыс. (было 80). Па выхадных і ў святочныя дні прыгарадныя перавозкі таксама крыху ўзрастуць. Калі 1 км каштаваў 500 руб., то цяпер будзе 600.

*Васіль САВІЦКІ.*

*ГУЛАГ*

## Ён быў любімым настаўнікам

*Нядаўна вілейчанін-пенсіянер Аляксандр Фёдаравіч Амельяновіч, які 36 год адпрацаваў на рамонтным заводзе электрыкам, атрымаў ліст з Мінска ад прафесара Мікалая Буйко. "...Я не толькі памятаю Вас, хаця з таго часу мінула паўстагоддзя, а і заўсёды ўспамінаю з удзячнасцю. Вы, безумоўна, пакінулі добры і глыбокі след у маім асабістым станаўленні, у маім жыцці наогул. Сярод многіх паважаных мною настаўнікаў Вы заззялі як ясная зорка (на жаль, як знічка, калі гаварыць больш дакладна)... Я радуюся, што Вы ёсць, што маю магчымасць сказаць хоць і запозненае добрае слова любімаму настаўніку...*

**Настаўніка і вучня пяцьдзесят год таму разлучыў ГУЛАГ. Трагічны лёс выпаў на долю Алеся, Аляксандра Фёдаравіча, Амельяновіча. Аб гэтым чытайце пубікацыю Алеся Цадко "Юнакі прысягалі Радзіме", што змешчана на 2-й старонцы.**

*Цэнтры занятасці інфармуюць*

## Патрабуюцца на работу

**МАЛАДЗЕЧНА.** Інжынер-канструктар (3), інжынер-будаўнік (3), муляр (7), майстры на вытворчасць, будаўніцтва (7), швачка (10), слесар на вытворчасць (5), токар (3). Цэнтр размяшчаецца: **В.Гасцінец, 146**.

**ВІЛЕЙКА.** Зваршчык (4), трактарыст (2), качагар (3), цясляр (3), муляр (5), прадавец на вёску (20), галоўны бухгалтар у будаўнічую арганізацыю (1), слесар-матарыст (2), кампрэсаршчык (1). **Даведкі па тэл. 54113.**

**МЯДЗЕЛ.** Механізатар (7), электрык (1), загадчык майстэрні ў калгасе (1), жывёлавод (2), муляр (2), іншыя будаўнічыя спецыяльнасці (10). **Даведкі па тэл. 55835.**

**СМАРГОНЬ.** Газаэлектразваршчык (4), муляр (5), токар (10), электраманцёр (5), цясляр (4), аператар станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем (4), шліфоўшчык (4), юрысконсульт (1). **Даведкі па тэл. 32130.**

*Навіны*

## І лечым, і хварэем

***ВІЛЕЙКА.** Днямі ў горадзе над Віліяй выяўлена захворванне сіфілісам у медыцынскай работніцы.*

А наогул, за мінулы год ў горадзе і раёне зарэгістравана 130 выпадкаў гэтай хваробы. На 7 больш, чым у 96-м.

*Аддзел інфармацыі.*

## Сустрэча ў літоўскай школе

***АСТРАВЕЦ.** На мінулым тыдні ў памяшканні Рымдзюнскай літоўскай школы адбылася крыху незвычайная для гэтай установы імпрэза.*

Сюды прыехаў пасол Літвы ў Беларусі Баўбліс, дырэктар дэпартамента нацыянальных меншасцяў Мотузас і галоўны спецыяліст аддзела нацыянальных меншасцяў Кадзітэ. Яны сустрэліся са старшынёй дзяржкамітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў Білыком, старшынёй рэспубліканскай суполкі беларускіх літоўцаў Тарнаўскайце, а таксама прадстаўнікамі абласных літоўскіх суполак.

Трэба зазначыць, што гэта была рабочая сустрэча, дзе адбылося выязное пасяджэнне суполкі, разглядаліся двухбаковыя праекты па развіцці гэтага літоўскага рэгіёна, узнімаліся надзённыя праблемы.

*Аддзел інфармацыі.*

## Скарачэнне... п'яніц

***ВАЛОЖЫН.** Мінулы год быў аб'яўлены як год рашучай барацьбы з п'янствам.*

2111 чалавек прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці за распіццё спіртных напіткаў і з'яўленне ў нецвярозым стане ў грамадскіх месцах (на 300 больш, чым у папярэдні год). Акрамя таго, гарэлку актыўна гоняць і прадаюць. Армія п'яніц, магчыма, скароціцца - 11 чалавек накіраваныя на прымусовае лячэнне.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*Крымінал*

## За два жыцці змагаюцца ўрачы

***АСТРАВЕЦ.** У той студзеньскі дзень трагедыя адбылася на чыгуначным пераездзе на станцыі Гудагай.*

Прыкладна каля 12 гадзін 30 хвілін жыхар Мінска **Валерый Ясевіч** разам з астраўчанамі **Генадзем Гугневічам** і **Аляксеем Пермяковым** на аўтамабілі "Фольксваген-Пасат" пад'ехалі з боку Ашмянаў да чыгуначнага пераезду. Перад імі стаяў грузавік, быў апушчаны шлагбаум, гарэў чырвоны светлафор. Але, па ўсім відаць, хлопцы спяшаліся - аб'ехалі грузавік і выехалі на рэйкі. У гэты ж момант ішоў грузавы цягнік з наліўнымі цыстэрнамі ў бок Вільні. Лакаматыў падчапіў аўтамабіль і працягнуў яго амаль 400 метраў. Ад лакаматыва аўтамабіль адрывалі ламамі. Састаў прастаяў больш за 2 гадзіны.

Вадзіцель аўтамабіля Валерый Ясевіч загінуў на месцы здарэння. У яго засталіся жонка і двое дзяцей. Два пасажыры з рознымі пашкоджаннямі былі змешчаныя ў рэанімацыйнае аддзяленне райбальніцы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**Ад аўтара.** Калі рыхтаваўся гэты матэрыял, то ў рэанімацыйным аддзяленні паведамілі, што і Генадзь Гугневіч, і Аляксей Пермякоў знаходзяцца ў цяжкім стане. За іх жыцці змагаюцца ўрачы.

## Маці абараняў

***ВІЛЕЙКА.** 12-гадовы хлопчык ударыў нажом у спіну свайму бацьку.*

"Ахвяра" нідзе не працавала, налягала на гарэлку і чакала адпраўкі на лячэнне (так вырашыў суд). Пасля чарговай разборкі бацькоў **па вул. Вадап'янава** сын вырашыў такім чынам абараніць маці. Крымінальная справа не ўзбуджалася.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*



*Міласэрнасць*

## На абед у кафэ

***ВІЛЕЙКА.** Міжнародная арганізацыя Чырвонага Крыжа мясцоваму аддзяленню аказала грашовую дапамогу.*

А тое ўжо вырашыла падтрымаць дзяцей з сацыяльна нядобранадзейных сем'яў. Цэлы месяц (з 20 студзеня па 20 лютага) 20 школьнікаў пасля ўрокаў абедаюць у кафэ "Вяснянка". І гэта акрамя харчавання на месцы вучобы.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*

## Ад Чырвонага Крыжа

***АСТРАВЕЦ.** Семдзесят пасылак з гуманітарнай дапамогай, у якіх былі прадукты харчавання, атрымалі на мінулым тыдні адзінокія састарэлыя людзі, а таксама шматдзетныя сем'і, у якіх выхоўваецца пяць і больш непаўнагадовых дзяцей.*

Такая дапамога была атрыманая Чырвоным Крыжам і з'явілася хоць нейкай падмогай у наш нялёгкі час для гэтых людзей.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Дапамога для дапамогі

***ВАЛОЖЫН.** 5 гадоў жыхарам раёна дапамагае каталіцкая абшчына з германскага горада Баменоля. Тоны гуманітарнай дапамогі: дзіцячае харчаванне, будматэрыялы на рэстаўрацыю касцёла святога Юзафа - дастаўленыя апошнім часам. Асабліва ад сяброўства выйграе СШ№1. Практычна ўвесь рамонт вядзецца за кошт замежных сяброў.*

Але леташнія чэргі на мяжы, цяганіна з растаможкай, мытныя зборы паставілі пад сумненне мэтазгоднасць дапамогі. Таму прадстаўнікі з Баменоля дабіліся аўдыенцыі ў дэпартаменце гуманітарнай дапамогі пры прэзідэнце РБ. Беларускі бок паабяцаў дапамогу.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

Стары альбом



Старая кабета Зяновіч з мястэчка Лебедзева у нацыянальным адзенні. Пачатак XX стагоддзя.

ФОТА З АСАБІСТАГА АРХІВА МІХАСЯ КАЗЛОЎСКАГА.

## Запрашаем да супрацоўніцтва

Сёлета Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны пры спрыянні рэдакцыі "РГ" плануе пачаць выпуск гісторыка-культурнага дадатку да "Рэгіянальнай газеты" Ён будзе месц на мэце пашырэнне ведаў аб мінулым народа, яго традыцыях, звычаях, культуры, славутых земляках, а таксама азнаямленне з сучаснымі набыткамі ў літаратуры і мастацтве. Запрашаем усіх, хто цікавіцца такімі пытаннямі, да супрацоўніцтва. Дасылайце нам свае краязнаўчыя даследаванні, літаратурныя замалёўкі, вершы, свае погляды на тыя ці іншыя гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў нашым рэгіёне, успаміны аб знакамітых людзях нашага краю. **Адрас для карэспандэнцыі: 222310, г. Маладзечна-4, а/с 8, ТБМ.**

*Алесь КАПУЦКІ.*

Культ-ура

**МЯДЗЕЛ.** У рамках I фестывалю народнага мастацтва "Беларусь - мая песня" у раёне пачаўся агляд мастацкай самадзейнасці школ, устаноў культуры, дзіцячых садкоў.

Аб'яўлены "тыдзень традыцыйнага мастацтва", які ўключае ў сябе цыкл выставак вырабаў самадзейных майстроў "Свет дзівосных захапленняў" (на базе Крывіцкага ГДК, Чараўкоўскага і Баярскага СДК); выстаўкі тканых вырабаў "Лёгкі подых мінуўшчыны". Таксама плануюцца вечары сустрэч з самадзейнымі майстрамі "Спатканне з творчасцю", рытуалы "Пасвячэнне ў майстры", арганізуюцца выязныя абменныя канцэртныя праграмы "Шаноўная спадчына" паміж установамі культуры раёна.

Адбыліся провады ў армію ў Баярскім СДК.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цікавая і неардынарная падзея надарылася ў творчым жыцці ўстаноў, народных майстроў, калектываў мастацкай самадзейнасці.

30 студзеня адбылося адкрыццё раённага Цэнтра рамёстваў, які будзе размяшчацца ў вёсцы Красоўшчына.

5 лютага будуць падведзеныя вынікі работы ўстаноў культуры раёна ў 1997 годзе.

**ВІЛЕЙКА.** Закончыўся адборачны тур конкурсу дыскатэк горада, фінал якога адбудзецца 7 лютага ў гарадскім доме культуры.

Гасцямі вілейчан 23 студзеня былі артысты Мінскага абласнога драматычнага тэатра. Гледачам былі прапанаваныя два спектаклі: "Тата" (дарослая казка для дзяцей) У. Арлова, "Камедыя" У. Рудава паводле твораў Марашэўскага і Аляхновіча. Спектаклі адбыліся ў ГДК.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

**АШМЯНЫ.** У памяшканні краязнаўчага музея адкрылася выстаўка творчасці самадзеўных майстроў раёна. Прадстаўленыя работы па ткацтву, вышыўкі, саломапляценне. З мастакоў выстаўляецца **Мікалай Гарбачэўскі, Пётр Явідовіч, Віктар Цуровіч.**

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

## Ці ёсць лішні білецік?

***АШМЯНЫ.** Яшчэ за тыдзень да гэтага мерапрыемства жадаючыя не маглі купіць білетаў. Іх заўзятыя гледачы папросту купілі загадзя.*

Падобнае адбывалася, дзякуючы аддзелу культуры, які праводзіў калядны сустрэчы пад назвай "Вечар збірае сяброў". Удзельнічалі не толькі тамтэйшыя спевакі і калектывы, але і з суседніх райцэнтраў. Усіх гледачоў уразіў цыганскі квартэт, які не толькі спяваў цыганскія песні, але і танчыў пад іх. А кампазітар з Астраўца Аляксандр Альховік зачараваў, у прамым сэнсе гэтага слова, усю залу ігрой на саксафоне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Вечар Высоцкага

***ВІЛЕЙКА.** Высоцкаму было б 60. Гэтай даце ў панядзелак была прысвечаная вечарына ў выставачнай зале гісторыка-краязнаўчага музея, арганізаваная сумесна з гарадской бібліятэкай.*

Аматары творчасці вядомага далёка за межамі Расіі барда **Уладзімір Кукарэка, Людміла Івашкевіч, Сяргей Мароз** зрабілі магчымым арганізаваць у гэтай зале выстаўку, прысвечаную Уладзіміру Высоцкаму. Асобна вылучаўся стэнд "Высоцкі і Беларусь". Цікавымі былі расказы тых, хто ўвачавідкі бачыў выступленні майстра сцэны як на тэатральных падмостках так і на эстраднай сцэне.

*Мікола ГАЙДУК.*

# А мы рызыкнулі!

***"Занімай, Беларусь, маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі".** Гэтыя словы Я. Купалы, здаецца, пачалі знаходзіць сваё выражэнне ў рэальным жыцці. Можа, не ў эканамічным і палітычным, а пакуль толькі ў культурным, але і гэта, я мяркую, значны крок наперад.*



Лідзія Іўчанка

У час Ражства Хрыстова ў нашых суседзяў, расіян, праходзіў сёмы Маскоўскі Міжнародны конкурс-фестываль дзіцячай і юнацкай народнай творчасці "Калядныя канікулы". У ім прымала ўдзел больш за 200 музычных калектываў і асобных выканаўцаў з розных куткоў Расіі. Беларусь прадстаўляла салістка ансамбля народнай музыкі "Калядкі" Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага **Лідзія Іўчанка.** І, магчыма, таму, што ў Ліды неардынарныя вакальныя здольнасці і цяга да сур'ёзных песень. Магчыма, таму, што мае такога кіраўніка, нястомнага збіральніка і прапагандыста народных песень, як **Зоя Русель**, яна была ўдастоена дыплома I ступені. Дарэчы, званне лаўрэата атрымала і Зоя Францаўна.

Гэта ўжо не першы выезд Беларусі на падобныя мерапрыемствы. Акрамя нашай рэспублікі, больш ніхто не рызыкнуў ці не захацеў прыняць удзел у конкурсе.

У заключэнне хачу дадаць: а яшчэ, кажуць, адзін у полі не воін.

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

ГУЛАГ

# Юнакі прысягалі Радзіме

***Алесь Амельяновіч нарадзіўся 30 верасня 1928 года ў вёсцы Гулі на Мядзельшчыне. Скончыў 5 класаў польскай школы ў Слабадзе, у 1943 годзе заканчвае сямігодку ў Кабыльніку (цяпер пасёлак Нарач). З вялікай павагай і ўдзячнасцю ўспамінае Аляксандр Фёдаравіч свайго першага настаўніка аднавяскоўца Антона Малевіча, выпускніка Віленскай семінарыі, які прышчапіў яму на ўсё жыццё любоў да роднай зямлі, патрыятызм... Цяга да вучобы прывяла Алеся ў Паставы, на радзіму маці, у настаўніцкую семінарыю, заснавальнікам якой быў Барыс Кіт, а дырэктарам Пётра Шчасны.***

Пасля вайны на базе семінарыі ствараецца педвучылішча, куды Алесь пасля субяседвання паступае на другі курс. Цяпер, больш чым праз паўстагоддзя, ён успамінае добразычлівую атмасферу паміж выкладчыкамі і навучэнцамі. 8 сакавіка на вечарынцы Мікола Асіненка (быў абраны кіраўніком Пастаўскага Саюза беларускіх патрыётаў) прапануе стварыць нелегальную патрыятычную арганізацыю. Алесь Амельяновіч і большасць яго сяброў падтрымліваюць прапанову. На адной з такіх вечарынак сябры арганізацыі прымаюць клятву і прысягу на вернасць Беларусі (так атрымалася, што па збегу акалічнасцей Алесь фармальна прыняць іх не змог, але пазней на допыце ў следчага ад іх ні ў якім разе не адмовіўся).

Скончыўшы вучылішча з адзнакай Амельяновіч паступае на завочнае аддзяленне фізмата БДУ, адначасова працуючы настаўнікам ў Сватказкай сярэдняй школе на Мядзельшчыне. 26 лютага 1947 года па наводцы правакатара прама на ўроку матэматыкі яму эмгэбэшнікі звязваюць рукі і адпраўляюць ў турэмнае "турнэ". Допыты ў Паставах, Гродне, Мінску... У чэрвені над сябрамі СПБ учыняецца суд, на якім старшынствуючы Фяклушын, засядацелі Разанаў і Феакістаў, заезджыя людзі, якія і трох слоў па-беларуску не здольныя звязаць, судзілі іх ад імя беларускай дзяржавы, абвінавачваючы іх у здрадзе Радзіме.

Не па ўласнаму жаданню Алесю Амельяновічу давялося вывучаць савецкую гулагаўскую геаграфію. Пачынаць сваё зэкаўскае жыццё давялося на прыіску "Аруёмаўскі" непадалёк ад пас. Бадайба. У 1949 годзе трапляе ў Азерлаг, потым этапам праз порт Ваніна трапляе ў Магадан, а адтуль ў пас. Будынчаг - у перакладзе - Даліна Смерці. На ўранавы руднік. Затым прыіск "Ягадны", знаёмства з тамтэйшым гулагаўскім "кватарантам" спеваком Вадзімам Козіным, прафесарам геаграфіі Церахавым, земляком з Пінска святаром Барысам Шуліцкім... У ГУЛАГУ па словах Аляксандра Фёдаравіча панавалі нявіданная жорсткасць і садызм, дзе за мяшок мукі "вертухаі" на выбар мог забіць любога ні ў чым не вінаватага зэка.

Дзякуючы стойкасці і моцнаму здароўю Алесь вытрымлівае гэты пякельны шлях выпрабаванняў і 10 чэрвеня 1954 года датэрмінова вызваляецца на волю. Але яшчэ на працягу 3 гадоў адбывае высылку, працуючы пасля сканчэння Магаданскага горнага тэхнікума на рудніку імя Гастэлы электрыкам. Там знаёміцца з прыбыўшай па камсамольскаму закліку будучай жонкай Фаінай і ў 1957 годзе, атрымаўшы нарэшце дазвол на выезд, разам з ёй пераязджае ў Вілейку, дзе на працягу 36 гадоў працаваў на рамонтным заводзе электрыкам. Дзве дочкі скончылі інстытуты, маюць свае сем'і.

*Алесь ЦАДКО.*



Пастаўскае колка патрыятычнай моладзі. У другім радзе першы злева Алесь Амельяновіч.



Алесь Амельяновіч - настаўнік у сватказкай школе.

ФОТА 1947 ГОДА.



На прыіску імя Цімашэнкі. Ужо амаль вольны электрык Амельяновіч.

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АМЕЛЬЯНОВІЧАЎ

